# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 27 2 ліпеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2273) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)

ЧАС РАЗБУРАЦЬ І ЧАС БУДАВАЦЬ

## РЭФЕРЭНДУМ: АВАНТУРА ЦІ ДАКЛАДНЫ РАЗЛІК?

**НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» Таісы БАНДАРЭНКА АДКАЗВАЕ СТАРШЫНЯ ІНІЦЫЯТЫЎНАЙ ГРУПЫ ПА ПРАВЯДЗЕННЮ РЭФЕРЭНДУМУ Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ**



**ПРАДСТАЎЛЯЕМ СУБЯСЕДНІКА**

**АНЦУЛЕВІЧ Уладзімір Іванавіч нарадзіўся 15 мая 1954 года ў в. Жытомля Гродзенскага раёна. Скончыў фізічны факультэт БДУ. Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі Акадэміі навук Беларусі. Аўтар звыш 50 навуковых прац. Член сойму БНФ. Старшыня Ініцыятыўнай групы рэферэндуму.**

**ЗАЎВАГА АЎТАРА:**

**Працуючы над інтэрв'ю, я вырашыла зрабіць маленькае даследаванне грамадскай думкі, каб даведацца пра тое, як адносяцца людзі да рэферэндуму. А таму папрасіла выпадковых сустрэчных на вуліцы, а таксама па тэлефоне адказаць на тры мае пытанні:**

**1. Ці вядома вам, што прайшоў збор подпісаў у падтрымку правядзення рэферэндуму па спыненні дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі і новых выбарах?**

**2. Ці будзеце вы прымаць удзел у рэферэндуме?**

**3. У гэтую, даволі цяжкую часіну, з кім вы звязваеце свае надзеі?**

**Адказы на пытанні чытайце па тэксту інтэрв'ю.**

*— Уладзімір Іванавіч, скончыўся першы і, мне здаецца, цяжкі этап вашай працы — збор подпісаў. Наперадзе не менш адказная справа — рэферэндум. Але давайце вернемся да самага пачатку. Тым больш, што гэта цікавіць нашага замежнага чытача, які ведае аб рэферэндуме толькі з выпадковай інфармацыі. Чыя гэта была ідэя, і з якой мэтай створана Ініцыятыўная група?*

— Я не буду закранаць палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя і іншыя падставы для датэрміновага спынення паўнамоцтваў цяперашняга Вярхоўнага Савета, які з'яўляецца галоўным тормазам на шляху карэнных рэформаў. З якім бы сумам ні азіраўся камуністычны Вярхоўны Савет назад, у недалёкае мінулае, калі ён быў, фактычна, прадстаўнічым органам мясцовага ўзроўню на перыферыі імперыі, і гэта было вельмі зручна: ніякай адказнасці, але Божым клопатам, незалежна ад нашага жадання і дзеянняў (а дакладней — бяздзеянняў) Вярхоўнага Савета, пасля жніўня мінулага года мы сталі грамадзянамі незалежнай Беларускай дзяржавы. І цяпер ужо няма ніякага цэнтра, і спадзявацца трэба толькі на сябе, бо ў нашых суседзяў шмат сваіх праблемаў. У гэтых умовах высветлілася поўная нядздольнасць Вярхоўнага Савета быць вышэйшым органам дзяржаўнай улады, ён як быў, так і застаўся прадстаўнічым. Наш народ па-ранейшаму безабаронны перад авантурнай палітыкай суседзяў. Усе спробы нешматлікай апазіцыі Беларускага Народнага Фронта схіліць Вярхоўны Савета да вырашэння тэрміновых і неадкладных пытанняў па ўсталяванню нашай дзяржаўнасці, натыкаліся на сцяну непаразумення, нежадання нават абмяркоўваць гэтыя пытанні.

Разумеючы вынікі такой палітыкі, усведамляючы сваю адказнасць за лёс Бацькаўшчыны, вычарпаўшы ўсе магчымыя парламенцкія спосабы, апазіцыя Беларускага Народнага Фронта ў Вярхоўным Савеце прыняла рашэнне звярнуцца непасрэдна да народа. Так, у канцы снежня 1991 года была зроблена Заява апазіцыі БНФ, падпісаная 35 народнымі дэпутатамі, аб пачатку фармавання Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэферэндуму па пытаннях роспуску Вярхоўнага Савета.

> **ПАЎЛОЎСКІ Павел, 25 гадоў, закройшчык:**
>
> **1. Так, я бачыў тых хлопчыкаў, якія збіралі подпісы. На жаль, яны мяне нічым не прывабілі.**
>
> **2. Хутчэй за ўсё не, бо не бачу я ў нас ні партыі, ні лідэра, за якімі можна было б пайсці.**
>
> **3. Спадзяюся толькі на самога сябе.**

*— Заявы былі і раней. Які лёс напаткаў гэтую заяву, і*

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

З ГІСТОРЫІ ВЁСАК ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЫ

## «ПАГРАНІЧНАЕ» ЯНОВА

Гістарычныя звесткі пра вёску Янóва (цэнтр сельсавета Веткаўскага раёна) мне ўдалося знайсці ў двух статыстычных даведніках канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. У кнізе «Волости и важнейшие селения Европейской России. — Вып. V. — Губернии Литовской и Белорусской областей» (Санкт-Пецярбург, 1886, с. 170) назва вёскі падаецца ў форме «Яновъ». Тут сказана, што ў гэтым населеным пункце Стаўбунскай воласці, які размешчаны на рэчцы Стаўбунцы, у 80-я гады XIX стагоддзя налічвалася 149 двароў, пражывала 865 жыхароў, меўся вятрак. У другой статыстычнай крыніцы — «Список населённых мест Могилёвской губернии» Г. П. Пажарава (Магілёў, 1910, с. 50) адзначаны наступныя факты: вёска Янова Стаўбунскай воласці належыць Яноўскаму вясковаму таварыству, у распараджэнні якога маецца 1 806 дзесяцін зямлі, годнай для апрацоўкі, 23 дзесяціны няўдобіц і 45 дзесяцін пад лесам; у вёсцы пражывае 650 мужчын і 674 жанчыны; колькасць двароў — 183.

Вось быццам бы і ўсе дакументальна засведчаныя гістарычныя звесткі пра гэтую вёску. Праўда, назву Янова нагадвае і польская гісторыка-геаграфічная праца — «Геаграфічны слоўнік Польскага каралеўства і іншых славянскіх краін» (том III. — Варшава, 1882, с. 414, на польскай мове). Аднак гаворка тут ідзе не пра канкрэтнае пасяленне пад назвай Янова, а пра шматлікія пасяленні пад такім найменнем увогуле. У гэтым даведніку сказана, што назвы тыпу Янаў, Янóва распаўсюдзіліся ў польска-літоўска-беларускім арэале даволі позна — з XVI—XVII стагоддзяў. Да з'яўлення вялікай колькасці падобных назваў населеных пунктаў прычынілася... папулярнасць асабовага імя Ян, якая тлумачылася тым, што некалькі каралёў Рэчы Паспалітай і проста знакамітых, заможных людзей дзяржавы насілі якраз гэтае імя — Ян.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**



**«Тыя рэформы ўрада, якія тычацца зямлі— носяць палавінчаты характар. Яны не даюць зямлю сялянам, не садзейнічаюць развіццю фермерства. Нам патрэбна прыняць закон Рэспублікі Беларусь, які б даваў цвёрдыя гарантыі разумнага валодання ёю сапраўдным гаспадаром-селянінам. Сялянская партыя Беларусі падрыхтавала праект такога закона. Але яго трэба спачатку шырока, усенародна абмеркаваць...»**

*(З выступлення старшыні Беларускай сялянскай партыі Яўгена ЛУГІНА на II з'ездзе беззямельных сялян).*

**НА ЗДЫМКУ: Я. ЛУГІН гутарыць з дэлегатамі з'езда.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

**(Больш падрабязна аб II з'ездзе беззямельных сялян Рэспублікі Беларусь чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў газеты).**

У ЛЮСТЭРКУ САЦЫЯЛОГІІ

## НІ ДЭМАКРАТЫІ, НІ КАПІТАЛІЗМУ

У Расіі і Беларусі найменш схільны да падтрымкі дэмакратыі і капіталізму, такі адзін з вывадаў міжнароднага даследавання, праведзенага амерыканскім інстытутам сацыяльных даследаванняў універсітэта штата Гаваі ў рамках праграмы «Новая дэмакратыя і мясцовае самакіраванне».

У ходзе гэтага шырокамаштабнага даследавання былі апытаны каля 3 тысяч прадстаўнікоў мясцовых улад розных узроўняў у больш чым 200 гарадах сямі дзяржаў Усходняй Еўропы. У іх лік увайшлі пяць рэспублік былога Савецкага Саюза —Расія, Украіна, Беларусь, Казахстан і Літва.

Па даных даследавання, якім былі заняты вучоныя 24 краін свету, «падтрымка капіталізму надзвычай моцная ў Літве, Польшчы і Славеніі, слабей на Украіне і надзвычай слабая ў Расіі і Беларусі».

Апытанне прадстаўнікоў мясцовых улад выявіла, што «два асноватворчых прынцыпы дэмакратыі—шырокі ўдзел у дэмакратычным працэсе і палітычная роўнасць—карыстаюцца слабай падтрымкай ва ўсіх краінах Усходняй Еўропы, за выключэннем Славеніі, прычым гэта падтрымка найбольш слабая ў Расіі, Беларусі і Літве».

БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

## ПАЧНЕМ З КАМАНДЗІРАЎ

На калегіі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь зацверджана праграма вывучэння і паступовага пераходу Узброеных Сіл на дзяржаўную мову.

Праграма складаецца з чатырох раздзелаў і ўключае асноўныя накірункі будучай работы. Прыклад заклікаены паказаць кіруючыя органы. Ужо з 1 ліпеня ў войску будуць праводзіцца планавыя заняткі.

На працягу 6 гадоў мяркуецца поўнасцю перайсці на выкарыстанне ва Узброеных Сілах Беларусі дзяржаўнай мовы—беларускай.

НА ТАМОЖНІ

## ВЫРАТАВАНЫЯ СКАРБЫ

Цэлы скарб на колах трапіў у рукі гродзенскіх таможнікаў і супрацоўнікаў УКДБ.

У службовым купэ поезда Санкт-Пецярбург—Варшава—Берлін імі былі выяўлены схаваныя ў тайніках каштоўнасці: залатыя партсігар і гадзіннікі з брыльянтамі, сярэбраныя скульптуры, цукарніца, табакерка і іншыя сувеніры, па-мастацку зробленыя хрустальныя вырабы, пазалочаная ікона і збаны, рэдкай прыгажосці фарфоравае і металічнае блюды дарэвалюцыйнай вытворчасці. Канфіскаваны таксама арыгіналы карцін невыяўленых аўтараў, выдадзеныя ў пачатку нашага стагоддзя кнігі «Айчынная вайна і рускае грамадства», «Сусвет і чалавек», пазалочаныя малітвеннікі на нямецкай і яўрэйскай мовах, некалькі альбомаў з вельмі рэдкімі калекцыямі.

— Гэта далёка не адзіны факт вывазу антыкварыяту за мяжу. Сумеснымі дзеяннямі нашых супрацоўнікаў і таможнікаў спынена яшчэ некалькі спроб правозу кантрабанды ў буйных памерах, — пракаменціраваў гэты выпадак начальнік УКДБ рэспублікі па Гродзенскай вобласці палкоўнік Леанід Сцепаненка. — Толькі за апошнія два гады канфіскавана звыш 130 старадаўніх ікон, буйныя партыі газавай зброі, замежнай валюты і іншых каштоўнасцей на агульную суму звыш чатырох мільёнаў рублёў.

ГОРКАЯ СТАТЫСТЫКА

## ЭКСПАРТ СКАРАЧАЕЦЦА

З пачатку 1992 года з Мінска на экспарт пастаўлена прадукцыі на 1 464,9 мільёна рублёў ва ўнутраных цэнах. Гэта амаль 5 тысяч трактароў, 430 грузавых аўтамабіляў, 16 тысяч веласіпедаў, 88,1 тысячы халадзільнікаў, 22,3 тысячы тэлевізараў. У параўнанні з мінулым годам экспартныя пастаўкі грузавікоў скараціліся на 65,8 працэнта, трактароў—на 25,1, халадзільнікаў—на 31,8, тэлевізараў—на 15,2 працэнта.

ПАМЯЦЬ

## ЗВАРОТ ДА СУАЙЧЫННІКАЎ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь звярнуўся да народа ў сувязі з Днём вызвалення.

З ліпеня 1944 года—адна з самых памятных дат у нашай гісторыі,—гаворыцца ў Звароце.—48 гадоў назад была вызвалена сталіца Рэспублікі Беларусь горад Мінск. Гэты дзень адзначаецца як свята вызвалення ўсёй беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, як сімвал подзвігу тых, хто адстойваў незалежнасць нашай шматпакутнай зямлі на фронце, у партызанскім атрадзе, у падполлі.

Свабода дасталася вельмі дарагой цаной—загінулі мільёны людзей, таму гэты дзень заўсёды адзначаецца і з радасцю, і са слязамі на вачах. Прайшло амаль паўвека, але па-ранейшаму ў сэрцах людскіх жывая памяць аб тых, хто не дажыў да перамогі.

Зварот накіраваны да ўсіх грамадзян, дэпутатаў, кіраўнікоў калектываў, моладзі і заклікае аддаць даніну памяці загінуўшым, усім ахвярам вайны, зберагчы добрыя традыцыі нашага народа.

МІЖУРАДАВАЕ ПАГАДНЕННЕ



У Мінску адбылося падпісанне міжурадавага пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Злучанымі Штатамі Амерыкі па інвестыцыях, якія дазволяць амерыканскім партнёрам знаходзіць дзелавых людзей у Беларусі і ўкладваць капітал, не баючыся яго страціць.

НА ЗДЫМКУ: пагадненне падпісвае прэзідэнт ОПІК пан Фрэд ЗЭДЭР і ўпаўнаважаны ўрада Рэспублікі Беларусь старшыня Дзяржкамітэта РБ па знешніх эканамічных сувязях Уладзімір РАДКЕВІЧ.

*«Хто яшчэ дзесяцігоддзе назад мог уявіць, што сістэма, якая прэтэндавала на тое, каб высока несці сцяг ідэй гуманізму і ўвасабляць прагрэс усяго чалавецтва, народзіць апакаліпсіс дваццатага стагоддзя — Чарнобыль? Для ўсведамлення маштабаў гэтага здарэння прывяду толькі некалькі лічбаў:*

*— ацэнка ўрону, нанесенага Чарнобылем Рэспубліцы Беларусь, якая сама не мела і не мае ніводнай атамнай электрастанцыі, выражаецца шаснаццаццю гадавымі бюджэтамі рэспублікі;*

*— больш дзвюх трацей радыеактыўнага попелу Чарнобыля выпала на Беларусь і пакрыла пятую частку яе тэрыторыі;*

*— з моцна забруджаных раёнаў рэспублікі мы завяршаем перасяленне звыш ста тысяч чалавек.*

*Бяздушная крывадушнасць кіраўнікоў былога Саюза, якія на працягу рада гадоў ілгалі сваім народу і ўтойвалі ісціну ад усяго свету, прывяла да таго, што сёння смяротнай пагрозе падвяргаецца генафонд беларускай нацыі. Мяркуйце самі: на працягу пяці апошніх гадоў зафіксаваны рост анкалагічных захворванняў шчытападобнай залозы ў дзяцей у дваццаць два разы!*

*Сёння мы ўжо не крычым і не заклікаем, звяртаючыся да сусветнага супольніцтва. На жаль, мы не атрымалі своечасовай падтрымкі па міждзяржаўнай лініі. У нашага шматпакутнага народа склалася думка, што ён кінуты на волю лёсу, што мы павінны разлічваць толькі на свае ўласныя сілы».*

*(З выступлення С. ШУШКЕВІЧА на канферэнцыі ААН па навакольнаму асяроддзю і развіццю ў Рыо-дэ-Жанейра 13 чэрвеня 1992 г.)*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Вуліцы Сацыялістычная, Урыцкага, бульвар Ленінскага камсамола ў Гродна будуць насіць цяпер адпаведна назвы: Вітаўта, Залатарская і Браніслава Тарашкевіча. Такое рашэнне прыняла сесія гарадскога Савета народных дэпутатаў.

● Самыя высокія ўклады ў Ашчадбанку ў жыхароў Брэсцкай вобласці — па 40—60 тысяч рублёў. Адна асоба такіх укладаў можа мець некалькі — у розных гарадах Беларусі і нават краін СНД. Так што сярод укладчыкаў, магчыма, ёсць і мільянеры.

● Спачатку ў Мінску, у Палацы спорту, а затым і ва ўсіх абласных цэнтрах адкрыюцца казіно. Гуляць у іх дазваляецца людзям, не маладзейшым за 18 гадоў. Удзень можна прайграць ці выйграваць рублі, а ўначы — толькі долары і іншую валюту.

● Да таго, як стаць дэпутатам гарадскога і Ленінскага раённага Саветаў горада Бабруйска Яўген Марозаў быў тройчы асуджаны. Цяпер яго зноў чакае лава падсудных—дэпутата злавілі за руку, калі ён браў хабар ад работнікаў гандлю.

● Па звестках газеты «Коммерсант Беларуси», ў Мінску ствараецца клуб мільянераў. Правы ўваходу ў яго атрымаюць тыя, хто можа пахваліцца капіталам не менш як 10 мільёнаў рублёў. Прагноз такі: набярэцца ўжо не менш 20 тузоў.

● Аднаўленая Гродзенская епархія Беларускага экзархата пачала выдаваць «Гродзенскія епархіяльныя ведамасці». Духоўна-асветніцкая газета будзе выходзіць штомесяц і распаўсюджвацца ў цэрквах.

ПАРАДОКСЫ РЫНКУ



Крыты рынак у пасёлку Сельмашаўскі Гомеля стаў дзейнічаць крыху больш за два гады назад. Яго рады трывала атабарылі не толькі гандляры гародніны, фруктамі, кветкамі, мяснай прадукцыяй, але і тыя, хто бойка вядзе гандаль рэчамі. Дырэкцыя змірылася з «веяннем часу» і пакляпацілася аб пашырэнні гандлёвых радоў, заключыла шэраг дагавароў з гаспадаркамі вобласці на пастаўкі дадатковай сельгаспрадукцыі.

І раптам гарадскія ўлады прымаюць рашэнне: забараніць гандаль рэчамі на тэрыторыі крытага рынку ў пасёлку Сельмашаўскі і перанесці яго на цэнтральны стадыён абласнога цэнтра. Хоць гараджан не задавальняла такое рашэнне, узмоцнены нарад міліцыі за два дні дзяжурства ўсё ж «павярнуў назад» чараду пакупнікоў і прадаўцоў, тлумачачы свае дзеянні складанымі крымінагеннымі абставінамі на крытым рынку.

Але тлумачэнне тут, відаць, у іншым: уваход на крыты рынак — бясплатны, а на рэчавы, на тэрыторыі стадыёна, для пакупнікоў або проста цікаўнага — 2 рублі, для прадаўца — 15 рублёў. За першыя два дні гандлю даход стадыёна склаў каля 40 тысяч рублёў. Магчыма, і ёсць сэнс падтрымаць такім чынам гарадскі стадыён, які мае патрэбу ў рамонце. Але як быць з ранейшым капгасным рынкам у густанаселеным мікраёне, які сіратліва стаіць пустым нават у нядзельныя дні!

НА ЗДЫМКУ: група работнікаў падатковай інспекцыі перад рэйдам па стадыёну.

# ТАК БЫЛО, ТАК ПАВІННА БЫЦЬ

З'яўленне беларускага буквара Ч. Янкоўскі расцаніў як выдумку невялікай групы беларускіх інтэлігентаў. Рэдактар «Кур'ера» быў упэўнены, што народ не жадае размаўляць на беларускай мове. Адзіны шанс далучыць яго да сусветных духоўных каштоўнасцей, на думку Янкоўскага, давала распаўсюджванне польскай культуры. Спробы развіваць «нейкую беларускую культуру», заяўляў ён, могуць прывесці да нацыянальнай сутычкі паміж беларусамі і палякамі. У сувязі з узнікненнем выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» Янкоўскі пісаў: «...нам здаецца, што разам з сонцам роднай пісьменнасці ў вокны беларускіх хат загляне... беларускі шавінізм».

Ч. Янкоўскі заклікаў даць народу магчымасць выбару культуры. Аднак ён не лічыў беларускую інтэлігенцыю часткай народа, а свабоду выбару культуры разумеў толькі як свабоду далучэння да польскай культуры.

Многіх прадстаўнікоў польскай грамадскасці непакоіла развіццё беларускага нацыянальнага руху. Яны праводзілі паралелі з літоўскім рухам. У польска-літоўскіх нацыянальных адносінах у гэты перыяд ішла сапраўдная публіцыстычная вайна.

Але паступова больш прадбачлівыя сярод дзеячаў польскага руху пачалі мяняць свае адносіны да беларускага адраджэння. Імі кіраваў пры гэтым звычайны прагматызм. Беларускае насельніцтва пераважала ў краі. Палякі ў параўнанні з імі з'яўляліся нацыянальнай меншасцю. Трэба было думаць аб яе будучыні. І вось у «Кур'еры літэвскім» у артыкуле «Голас з Магілёўскай губерні» ўпершыню прагучала: «Палякам неабходны саюз з беларускім народам». Праўда, аўтар не бачыў другога шляху да гэтага саюза, акрамя як праз пашырэнне польскай культуры сярод беларусаў.

У другой палове 1906 года тон публікацый «Кур'ера літэвскага» змяніўся. Ст. Акуліч упершыню выказаў вельмі разважлівую думку, якая азначала пераход да якасна іншага ўзроўню беларускага пытання: «Нас дзеліць не праблема мовы, а класавая непрыхільнасць».

А. Тупальскі ў артыкуле «Польскія пазіцыі ў Беларусі і зямельная праблема» ў тым жа «Кур'еры...» працягвае гэтую думку і заклікае ўсвядоміць, што палякі ў краі, з'яўляючыся нацыянальнай меншасцю, у той жа час застаюцца пануючым грамадскім класам землеўладальнікаў. Далейшае развіццё падзей павінна прывесці, па яго меркаванню, да выбарнага самакіравання. У гэтым выпадку польская грамадскасць можа страціць сваё палітычнае значэнне, а калі будзе праводзіцца радыкальная зямельная рэформа, то і эканамічнае. Каб гэтага не здарылася, А. Тупальскі рэкамендаваў адмовіцца ад любога праяўлення паланізацыйнай палітыкі. «Навязванне сваёй культуры, усялякі гвалт — гэта злачынства, і болей таго — гэта памылка».

У артыкуле выразна высвеТлілася яшчэ адна праблема польска-беларускіх адносін — праблема ўзаемаадносін беларускіх малазямельных і беззямельных сялян і польскіх землеўладальнікаў.

А. Тупальскі заявіў, што ўратаваць польскую грамадскасць Беларусі і Літвы ад эканамічнага і палітычнага заняпаду можа толькі стварэнне шырокага кола дробных землеўладальнікаў, якія будуць у стане ўзбагачацца і матэрыяльна, і духоўна. У гэтым сацыяльным слоі яму бачылася сур'ёзная перашкода сацыяльнаму руху нізоў.

Да сяброўства з беларусамі заклікалі аўтар артыкула «Памылковыя дарогі», які схаваўся пад псеўданімам «Цывіс», Ю. Пілаўскі («Прамы шлях»), О. Еленьскі («Адна дэпутацкая група ці дзве?»), аўтар артыкула «Нацыянальныя дэмакраты на Літве», які падпісаўся псеўданімам «Аб'ектыўны». Гэтыя артыкулы былі прадыктаваны не столькі дэмакратызмам памянутых аўтараў, колькі іх клопатам аб будучыні палякаў на Беларусі і Літве. О. Еленьскі шчыра пісаў, што падтрымка палякамі маладой беларускай культуры не толькі будзе ўмацоўваць добрыя адносіны з беларусамі, але ў рэшце рэшт зробіць з іх «дзяцей польскай культуры, таму што іх уласная культура — утопія» («Кур'ер літэвскі», 1906, № 250).

У 1907 годзе на старонках «Кур'ера літэвскага» ўсё часцей з'яўляюцца прапановы аб стварэнні адзінай партыі Беларусі і Літвы, якая аб'яднала б усе нацыі краю. Цікава, што ўпершыню гэтая ідэя была выказана яшчэ ў лістападзе 1906 года. «Кур'ер літэвскі» надрукаваў зварот, перададзены ў рэдакцыю землеўладальнікам з Мінскай губерні Р. Скірмунтам. Зыходзячы з невялікага рэдакцыйнага каментарыя, можна зрабіць выснову, што ініцыятыва стварэння партыі зыходзіла ад яго. У звароце была змешчана праграма будучай краявой партыі, заснаваная на праграме дзейнасці Мінскага сельскагаспадарчага таварыства. Першым пунктам праграмы было патрабаванне роўнасці ўсіх нацыянальнасцей краю. Паводле публікацыі, аб'яднаць увесь край павінны былі агульнадэмакратычныя лозунгі: свабода слова, друку, сходаў, пашырэнне выбарчых правоў, ліквідацыя пашпартнай сістэмы. Акрамя гэтага праграма прапаноўвала ўвядзенне самакіравання ў краі, бясплатную пачатковую адукацыю на роднай мове. Эканамічны раздзел быў сфармуляваны вельмі агульна і вычэрпваўся адным пунктам: «Уздым дабрабыту народа, палёгка ў куплі зямлі для малазямельных і беззямельных сялян (крэдыты і г. д.). Захоўванне прыватнай уласнасці».

У канцы зварота падкрэслівалася, што назва партыі («Краявая партыя Літвы і Русі») тлумачыцца складам насельніцтва краю. Аб беларусах не гаварылася нічога. Цікава, што ў польскім друку не з'явілася ніводнага водгуку на гэты зварот.

У 1907 годзе ідэя краявой партыі стала аб'ектам шырокага абмеркавання сярод дзеячаў польскага руху. К. Скірмунт у артыкуле «Партыя Беларусі і Літвы» («Кур'ер літэвскі», 1907, № 50) прапанавала ўласны варыянт праграмы гэтай партыі. Ён прадугледжаў стварэнне нацыянальных школьных цэнтраў, клопат аб развіцці моваў усіх народаў краю. К. Скірмунт пісала аб неабходнасці дапамогі беларускаму нацыянальнаму руху. «Мы павінны сказаць яму (беларусу. — **А. С.**), хто ён такі, якая ў яго гісторыя, інакш сувязі паміж палякамі і беларусамі могуць быць разарваны». У гэтым жа нумары «Кур'ера літэвскага» была надрукавана праграма «Саюза палякаў краю», у якой, нягледзячы на назву, таксама галоўнай была ідэя аб'яднання ўсіх нацый. Асновай гэтага аб'яднання павінны былі стаць роўныя магчымасці для развіцця культуры ўсіх народаў. Што датычыць беларускага руху, то ініцыятары стварэння «Саюза палякаў краю» адзначалі, што ў сваім развіцці ён наблізіўся да раздарожжа паміж уплывам дзвюх культур (польскай і рускай) і шляхам уласнай культуры. Гэтым яны падкрэслівалі важнасць польска-беларускіх адносін. Аднак з гэтай ацэнкай беларускага руху наўрад ці можна згадзіцца. Беларускі нацыянальны рух ніколі не стаяў на раздарожжы. Ён з самага пачатку пайшоў шляхам развіцця ўласнай культуры.

Аб неабходнасці адзінства ўсіх нацыянальнасцей краю і асабліва польска-беларускага адзінства пісаў І. Жукоўскі ў кнізе «Палякі і беларусы» (Вільна, 1907). Цікава, што і ён, вядомы спецыяліст па эканамічных пытаннях, амаль што зусім не крануў эканамічных аспектаў польска-беларускіх адносін, а разглядаў толькі іх культурны бок.

Стварыць дэмакратычную адзіную партыю Беларусі і Літвы прапаноўваў вядомы дзеяч партыі кадэтаў, дэпутат І Дзяржаўнай думы ад Мінскай губерні А. Лядніцкі. Большасць дзеячаў польскага руху не падзяляла яго кадэцкіх перакананняў, але адносілася да яго з павагай. У артыкуле «Пасля выбараў» А. Лядніцкі прапанаваў стварыць «Прагрэсіўную краявую партыю», якая б аб'яднала ўсе нацыянальнасці на аснове агульных дэмакратычных патрабаванняў. «Антытэза нацыяналізму — не касмапалітызм, а дэмакратыя».

Падобных заклікаў і зваротаў вельмі многа ў польскім віленскім друку 1907 года. Але, на жаль, яны не суправаджаліся ніякімі практычнымі прапановамі, што тычыліся асноўных праблем польска-беларускіх адносін: польскага памешчыцкага землеўладання і набажэнства ў касцёле на польскай мове. І першае, і другое ў доўгія гады нацыянальных ганенняў успрымалася польскім грамадствам у якасці краевугольнага каменя ў аснове польскіх пазіцый на Літве і Беларусі. І вось у перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, каб быць да канца паслядоўнымі ў абвешчаных дэмакратычных прынцыпах, трэба было згадзіцца на аграрную рэформу, якая б уключала ў сябе частковае адчужэнне памешчыцкіх зямель, і на ўвядзенне беларускай мовы ў набажэнства ў касцёле. Пайсці на гэтыя ахвяры яны не змаглі. Праўда, неабходнасць частковага адчужэння памешчыцкіх зямель пры правядзенні камасацыі сялянскіх надзелаў і ліквідацыі сервітутаў паступова стала прызнавацца многімі. Але што датычыць мовы набажэнства, тут пазіцыі засталіся амаль нязменнымі: ніякіх уступак беларускай мове. Тым самым у гістарычных рэаліях Беларусі і Літвы ў пачатку XX стагоддзя заставаўся моцны фактар паланізацыі. Апорай яго з'яўляўся касцёл. У лісце на адрас рэдакцыі «Кур'ера літэвскага» ў сярэдзіне 1906 года Віленскі епіскап Эдвард Роп адзначаў, што неабходнасць беларускай мовы ў набажэнстве поўнасцю адсутнічае. «Самі вернікі не жадаюць яе чуць». «Дзённік Віленьскі» перадаў непакой каталіцкага духавенства Беларусі і Літвы ў сувязі з Дэкрэтам Папы рымскага (№ 19702), у якім бацькам, рускім па нацыянальнасці, дазвалялася пры хрышчэнні і шлюбе іх дзяцей адказваць на пытанні ксяндза на роднай рускай мове. Рэдакцыя выказала здзіўленне польскага каталіцкага духавенства, што, прымаючы такое важнае рашэнне, Рым не выслухаў прадстаўнікоў польскага касцёла.

Адзінае змяненне ў гэтай пазіцыі выказана ў артыкуле «Серпня» (віленскі карэспандэнт варшаўскага «Слова») «Новыя заўвагі» («Кур'ер літэвскі», 1906, № 174). Вырашыць праблему мовы набажэнства ён прапанаваў праз увядзенне дадатковага набажэнства на беларускай і літоўскай мовах. Польскае каталіцкае духавенства на гэта не адрэагавала.

З першага верасня 1906 года ў Вільні пачаў рэгулярна выходзіць «Дзённік Віленьскі». З яго з'яўленнем вызначылася яшчэ адна пазіцыя па «беларускаму пытанню». Яе нельга лічыць новай, паколькі яна ў значнай ступені паўтарала ранейшыя (1905 г.) публікацыі «Кур'ера літэвскага». Прычым, шавіністычны тон артыкулаў у «Дзённіку» быў яшчэ больш відавочны. І ў 1906, і ў 1907 гадах на старонках гэтай газеты выказвалася сумненне наконт існавання самабытных літоўскага і беларускага народаў.

У адным з нумароў быў надрукаваны ліст чытача, які падпісаўся «Эльф». Ён рэзка крытыкаваў палякаў, якія падтрымліваюць беларусаў і літоўцаў. «Беларусаў, — пісаў «Эльф», — хочуць ашчаслівіць беларускай культурай без іх жадання. Яны заўсёды веданне польскай мовы лічылі з'явай цывілізацыі. Ніякім палякам не разбудзіць беларускі народ» («Дзённік Віленьскі», 1906, № 20). Дарэчы, гэта было сказана ў адрас маладой беларускай інтэлігенцыі. Ф. Юрэвіч у артыкуле «Нацыянальная дапамога» заклікаў закончыць з «псеўдагуманістычным пачуццём». «Наш першы абавязак — несці асветніцтва другім народам. Не трэба адштурхоўваць тых, хто цягнецца да нашай культуры. Інакш яны пойдуць да другой, усходняй, а гэта нанясе вялікую шкоду не толькі нашай, але і ўсёй заходнееўрапейскай культуры». Аб тым, што палякі — гэта адзіная сіла, якая нясе цывілізацыю «цёмным» беларусам, пісаў М. Абезерскі ў артыкуле «Перасцярога з крэсаў» і інш.

«Кур'ер літэвскі» ўступіў у палеміку з органам «эндэцыі». У канцы 1906 года такая пазіцыя здавалася «Кур'еру літэвскаму» не адпавядаючай польскім інтарэсам. У артыкуле «Без адказу» («Кур'ер літэвскі», 1907, № 67) Л. Абрамовіч напомніў, што беларускія газеты «Наша Доля» і «Наша Ніва», якія нядаўна пачалі выдавацца, адразу ж знайшлі некалькі тысяч падпісчыкаў. Дарэчы, «Кур'ер літэвскі» толькі аднойчы звярнуў увагу на «Нашу Долю», калі змясціў ў судовай хроніцы інфармацыю пра пасяджэнне суда, на якім разглядалася адна з публікацый «Нашай Долі». На выхад першага нумара «Нашай Нівы» «Кур'ер літэвскі» наогул не адрэагаваў.

Аналізуючы пазіцыі польскага перыядычнага друку па пытаннях сацыяльна-эканамічнага, палітычнага жыцця, можна вылучыць правыя, левыя, цэнтрысцкія выданні. Але, калі разглядаць іх адносіны да беларускага нацыянальнага руху, прынцыповых адрозненняў не заўважыш. Мэта іх дзейнасці ў нацыянальнай сферы была адзінай: не толькі захаваць, але і ўмацаваць пазіцыі польскай грамадскасці ў жыцці краю. Адрозненні пачыналіся пры абмеркаванні спосабаў дасягнення гэтай мэты. І тут, пачынаючы з сярэдзіны 1906 года, многія лічылі тактычна выгадным падтрымліваць беларускі нацыянальны рух. Зрэшты, падтрымка абмяжоўвалася чыста дэкларатыўнымі заявамі.

Дзіўна, але ў адносінах да беларускага нацыянальнага руху пазіцыі польскага ліберальнага друку і рускай чарнасоценнай прэсы фактычна супадалі.

Не выпадкова А. Уласаў у красавіку 1908 года ў «Нашай Ніве» пісаў, што беларусы апынуліся паміж двух агнёў. З аднаго боку, «абрусіцелі», з другога — палякі, якія хочуць усіх беларусаў-католікаў зрабіць палякамі і заяўляюць, што беларусы як народ не існуюць, іх прыдумалі, каб пасварыць сялян і памешчыкаў краю.

**А. СМАЛЯНЧУК.**

---

**(Закачэнне. Пачатак у № 26).**

---

Паважаная рэдакцыя газеты «Голас Радзімы»!

Дазвольце праз вашу газету звярнуцца да ўсіх землякоў-беларусаў, асабліва старадаражан, якія жывуць у розных краінах свету.

Паважаныя суайчыннікі-землякі! У сувязі з новымі ўмовамі, якія складваюцца ў нас, мы становімся на шлях развіцця цывілізаваных краін, нам дазволена вольна маліцца... Вядома, маліцца можна і дома, але ж патрэбны і Храм Божы. Так! Храм запланавана ўзвесці ў нашым горадзе Старыя Дарогі. І ён будзе ўзведзены, хаця сродкаў катастрафічна не хапае. Мясцовыя жыхары, працоўныя калектывы ўносяць пасільны ўклад. Але ж іх магчымасці абмежаваныя, таму будаўніцтва царквы зацягваецца.

Вось мы і вырашылі звярнуцца да землякоў, якія пражываюць у розных краінах свету: ахвяруйце па магчымасці частку сваіх зберажэнняў на святую справу — дапамажыце пабудаваць праваслаўную царкву ў горадзе Старыя Дарогі.

Свае ахвяраванні накіроўвайце на адрас:

**222910, Рэспубліка Беларусь, г. Старыя Дарогі Мінскай вобласці, разліковы рахунак № 700519 у Старадарожскім аддзяленні Аграпрамбанка Рэспублікі Беларусь.**

Пасля ўвядзення царквы ў дзеянне ў ёй будзе навечна захоўвацца спецыяльная кніга, у якой па жаданню тых, хто ахвяраваў свае сродкі на яе будаўніцтва і развіццё, будуць унесены іх прозвішчы.

З павагай і надзеяй на дапамогу

**КОМЛІК Уладзімір Нікіфаравіч,**
**старшыня праваслаўнай**
**Свята-Мікалаеўскай царквы**
**ў г. Старыя Дарогі**
**Мінскай вобласці.**

ГАЙ ДЭ ПІКАРДА ПАБЫВАЎ У МІНСКУ

# БЕЛАРУСІСТ З АНГЛІІ

Званок Гая дэ Пікарда з Лондана быў нечаканым.

— Памятаеце мяне? Гэта ж мы раззнаёміліся на свяце ў гонар Скарыны, — пачула голас з моцным англійскім акцэнтам. — Ёсць справы ў Беларусі, хутка ўбачымся, ці не дапаможаце сустрэцца з кампазітарам Багатыровым?

Забыць гэтага чалавека было абсалютна немагчыма — надта ўжо каларытная фігура. Госць з Англіі аказаўся дасведчаным у пытаннях нашай гісторыі, музыкі, культуры ўвогуле. Ну проста жывая энцыклапедыя. Пры сустрэчы тры гадзіны запар, знайшоўшы ўдзячнага слухача, ён расказваў пра свае новыя даследаванні скарынінскай сімволікі, якая, на яго думку, дае ключ да разумення філасофіі Скарыны.



У спадара Гая дэ Пікарда аказалася ў Мінску шмат сяброў і знаёмых. З вядомым беларусістам імкнуліся сустрэцца геральдысты і музыканты, артысты і архівісты. Дарэчы, для мінскага камернага хору Гай дэ Пікарда перадаў шмат беларускай царкоўнай музыкі з уласнай бібліятэкі, са свайго архіву.

І дзякуючы яму невядомыя на Беларусі творы царкоўнай музыкі беларускіх кампазітараў-эмігрантаў загучалі ў выкананні маладога харавога калектыву.

— Спадар Гай, — прашу я,— калі ласка, раскажыце, што вас звязвае з Беларуссю.

— Я француз і жылі мы ў Парыжы. Дзед меў шмат прыяцеляў з Расіі, у асноўным старых афіцэраў царскай арміі, што эмігрыравалі на Захад. Цётка паслала мяне ў рускі праваслаўны хор царквы Аляксандра Неўскага ў Парыжы. Яна спадзявалася, што гэты цудоўны хор мне спадабаецца, і так яно сталася. Я быў зачараваны. Спяваў там і беларускія канцычкі. Кіраўнік хору Спаскі гаварыў мне: «Кажуць, што гэта музыка не літургічная, не кананічная, але няпраўда тое, гэта сапраўдная прыгажосць, і ў ёй душа праваслаўя».

Потым я быў студэнтам у Парыжы, вучыўся на юрыста. І як усе студэнты, у гэтым часе, трапіў пад уплыў сацыялістычных ідэй. Актыўна дзейнічаў на пасадзе сакратара маладзёжнай асацыяцыі «Вялікабрытанія — СССР». Памятаю, я вырашыў арганізаваць вечар славянскай музыкі. Аднак высветлілася, што недастаткова ведаю пра беларускую музыку. Спытаўся, хто можа даць кансультацыі. Параілі звярнуцца да айца Чэслава Сіповіча. Ён мне даў усё, што я хацеў, асабліва многа духоўнай музыкі. Дзякуючы яму ж, я спазнаў беларускія народныя песні. Здарылася, што працягваць вучобу мне давялося ў Англіі, дзе праз айца Чэслава Сіповіча я наладзіў кантакты з беларускай эміграцыяй.

— А як вывучылі беларускую мову?

— Я шмат часу праводзіў сярод беларусаў, чуў іх мову, яна мне спадабалася. Ведаю па-беларуску і разумею. Усё па слыху.

— Цяжка было адолець Скарынавы выданні?

— Старабеларускую мову не цяжка зразумець, калі ведаеш стараславянскую.

— Колькімі мовамі вы валодаеце?

— Французскай, ангельскай, нямецкай, беларускай, стараславянскай, польскай, украінскай, італьянскай і слаба расейскай.

— Вы пісалі артыкулы пра беларускіх кампазітараў Равенскага і Куліковіча-Шчаглова. Ці былі з імі асабіста знаёмыя?

— На жаль, не. А артыкулаў надрукаваў многа ў розных мастацкіх часопісах у Амерыцы, Францыі, Англіі. Куліковіч, каб ведалі, быў любімы кампазітар Сталіна. Ён аўтар кантаты пра Сталіна. Яе ў свой час паўсюль спявалі, была надзвычай папулярная. І вось здарылася так, што ён у час вайны ад'ехаў з радзімы. Як здрадніка яго шукалі людзі Сталіна і хацелі расстраляць. Ягоная спадчына знаходзіцца цяпер у бібліятэцы Скарыны ў Лондане. Куліковіч быў адданы беларускасці чалавек, вельмі-вельмі таленавіты, прыгожа гарманізаваў народныя песні. Многія спецыялісты лічаць, і я з імі згодны, што Куліковіч — кампазітар сусветнага маштабу. Але ж на Беларусі яго не ведаюць, таксама як і Равенскага.

— Якое ў вас склалася ўражанне аб беларусах?

— Гэта цікавыя людзі. Многае ў іх характары ад беларускай прыроды. Трошачкі містычныя. Як Скарына. Ён быў кабаліст, хрысціянскі кабаліст. Кабала — значыць па-жыдоўску традыцыя. Гэта была традыцыя інтэрпрэтацыі цяжкіх ідэй, якія ёсць у Бібліі. Прынамсі, пра гэта я напісаў артыкул, і вы можаце яго надрукаваць у газеце. Думаю, што ён зацікавіць чытача.

— Скажыце, спадар Гай, чаму вы беларускай царкоўнай музыцы ўдзяляеце так шмат увагі, прапагандуеце яе?

— Я люблю яе. Бо гэта прыгожа. Руская, беларуская, французская, нямецкая царкоўная музыка — частка нашай еўрапейскай спадчыны. Мы мусім яе ведаць, захоўваць.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Гай дэ ПІКАРДА (крайні справа) у Беларускім таварыстве «Радзіма».**

**Фота В. СТАВЕРА.**

ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# СЕМ РАЗОЎ АДМЕРАЙ

У «Голасе Радзімы» № 16 за 16-га красавікаа 1992 года, у артыкуле «Цярністы шлях Равенскага», хтосьці прапануе, каб касцельна-рэлігійны гімн «Магутны Божа» Міколы Равенскага на словы Наталлі Арсеньевай стаў нацыянальным гімнам Рэспублікі Беларусь. Гімн гэты напісаны беларускімі католікамі і вуніятамі для беларусаў-католікаў і вуніятаў, і няхай яны здаровенькія спажываюць у сваіх каталіцкіх касцёлах і каталіцкіх касцёлах усходняга абраду. Гімн гэты не павінен мець нічога супольнага з нацыянальным гімнам Рэспублікі Беларусь. Гімн рэлігійны беларускіх вуніятаў і католікаў «Магутны Божа» ўзяты з польскага «Божэ цось Польскэн пшэз так лічнэ векі оцалял бляскем потэнгі і хвалы». Беларускія католікі і вуніяты ўводзяць гэты гімн нахальна ў беларускія праваслаўныя цэрквы на Беларусі, каб пашыраць свой уплыў, сваю прапаганду ў тыя беларускія праваслаўныя цэрквы на Беларусі (пераважна ў Заходняй Беларусі), што знаходзяцца пад уплывам расійскіх праваслаўных святароў... 

Цяпер вернемся, што да прапановы беларускага нацыянальнага гімна. Што ёсць дрэннага з беларускім гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»? Гэты гімн лічылі фашыстоўскім, дык і бел-чырвона-белы сцяг, і герб «Пагоню» лічылі фашыстоўскімі!

Як жа можна ўвесці рэлігійны гімн жменькі католікаў і вуніятаў на Беларусі на гімн нацыянальны, які будзе спявацца ўсім народам нованароджанай Рэспублікі Беларусь як праваслаўнымі, яўрэямі, неверуючымі (якіх ёсць і будзе шмат на Беларусі), і іншымі рэлігійнымі меншасцямі ў часе нацыянальных святкаванняў, у якіх народ хоча быць вясёлым і калі не адзін будзе крыху выпіўшым...

Прыказка кажа «сем раз памерай, а раз адрэж», таму трэба добра падумаць над нацыянальным гімнам, бо рэлігійны гімн жменькі беларускіх вуніятаў і католікаў, замяніўшы на нацыянальны, можа давесці да спрэчак, спрэчкі — і да боек, а гэта разам да нацыянальнага закалоту.

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

*НАША СПАДЧЫНА*

# ВЯСЕЛЬНЫ КАРАВАЙ

II

**«Ой, харошы наш каравай, харошы,**
**Бо хорошы каравайніцы мясілі,**
**Ой, смачны наш каравай ды прыгожы,**
**Бо прыгожы каравайніцы ляпілі...»**

Так спявалі жанчыны, вымешваючы цеста для вясельнага каравая. Даўно так павялося, што напярэдадні вясковага вяселля выпякалі рытуальны хлеб. Для выпечкі святочнага цеста запрашалі лепшых майстрых сваёй і суседняй вёсак, якія не толькі ўмелі добра хлеб выпякаць, але і хораша песні спяваць ды танцаваць, бо выпечцы цеста абавязкова спадарожнічалі рытуальныя песні і карагоды. Каравайніцы былі прыгожа апрануты, адзенне дапаўняў абавязковы белы з кужалю фартух. Фартушкі былі ўпрыгожаны каляровымі, часцей за ўсё чырвонымі палоскамі, невялічкім узорам з квадрацікаў, ромбікаў, зорачак, стылізаваных кветак з лісцікамі. Бывае, што ў арнаменце фартушка сустракаюцца розныя складаныя заморфныя ці нават антрапаморфныя матывы. Такі фартух жанчыны надзяваюць толькі тады, калі запрошаны ў каравайніцы, але ні ў якім разе не карыстаюцца ім у іншых выпадках. Каравайніцы былі жанчынамі чулымі, ветлівымі, пяшчотнымі жонкамі, клапатлівымі матулямі, часцей — з мнагадзетнага роду. Лічылі, што ўсё лепшае, што было ў характары жанчыны, каравайніцы разам з хлебам перадаюць маладым.

Муку для вясельнага каравая бралі толькі пшанічную лепшай якасці, яйкі ад некалькіх курэй, малако і масла — ад некалькіх кароў. Пры гэтым у кожным рэгіёне была свая лічба, што адпавядала тром, пяці, сямі і нават дзевяці. Даўней каравай ляпілі рукамі, а пазней яго выпякалі ў вялізнай круглай форме — глінянай ці жалезнай пасудзіне. Фарбы рабілі з вішні, бурака, морквы, з чарніц і іншых лясных ягад. Жыхары Карэліцкага раёна выпякалі рознакаляровыя караваі, а ў вёсках на беразе Свіслачы хлеб не расфарбоўвалі. У некаторых вёсках каравай упрыгожвалі таксама самаробнымі папяровымі кветкамі і чырвонай стужкай. У даўнія часы вясельныя хлябы выпякалі асобна для нявесты і жаніха. Улічваючы характар дэкаратыўнага аздаблення, яны маглі быць аднолькавымі, а маглі і зусім рознымі, хаця цеста выкарыстоўвалі адно. Каравай упрыгожваўся абавязкова «касой» — плящёнкай з каравайнага цеста, што абвівала, быццам вянок, бохан. Часам вясельны хлеб пяклі шматярусным. На круглым, вялізных памераў хлебе размяшчаліся стылізаваныя фігуркі розных птушак, жывёлін, ляпныя дрэвы і кветкі, дэкаратыўныя вырабы, што называліся «шышкамі», кошык або гняздзечка з яйкамі ці птушанятамі і многа ўсяго іншага, што дапаўняла, упрыгожвала каравай і надавала яму своеасаблівы выгляд. Пасярэдзіне кампазіцыі стаяла так званая «рагатка». Гэта трохрогавая галінка яблыні, вішні, грушы або якога іншага пладаноснага дрэва, абкручаная хлебнай палоскай з прэснага цеста і аздобленая чырвонай стужкай. «Рагатка» — сімвал міру, дабрабыту, сімвал самога жыцця. Упрыгожвалася яна ў залежнасці ад густу і мастацкіх здольнасцей каравайніцы. Самыя ўмелыя ды таленавітыя стваралі часам з цеста нават нявесту з жаніхом, якія стаялі побач ці па розныя бакі «рагаткі», а навокал — куры, пеўнікі, козачкі ды авечкі — усё з салодкага вясельнага цеста.

Своеасаблівымі адметнымі рысамі каравая былі «шышкі», якія не толькі дапаўнялі агульную кампазіцыю, але і выпякаліся асобна і абавязкова з таго ж цеста, што і сам каравай. Цеста, як ужо адзначалася, было здобнае, але для пластыкі часцей замешвалі другое цеста і не клалі надта многа яек, масла, цукру, іншых прысмакаў, або наогул яно было зусім посным. Паставіўшы хлеб у печ, жанчыны жадалі яму вырасці пышным. Некаторы час нельга было адчыняць дзверы на двор, каб «не спу-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ІМЯ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА





**Графік, жывапісец, скульптар, захоплены збіральнік фальклору — такім ведалі сучаснікі Язэпа Драздовіча. Спадчыну ён пакінуў немалую: літаратурныя творы і мастацкія палотны, што ўслаўляюць прыгажосць роднага краю, унікальную графічную серыю, прысвечаную старажытнай замкавай архітэктуры Беларусі, і партрэтную галерэю яе гістарычных дзеячаў. Кожнай новай работай сцвярджаў Я. Драздовіч веліч свайго народа, своеасаблівасць роднай зямлі. Не даць знікнуць з памяці ўсяму, што створана адным з выдатных сыноў Беларусі, узялася выкладчыца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы пасёлка Германавічы ў Шаркоўшчынскім раёне, Ада Райчонак. Яе падзвіжніцкая праца завяршылася адкрыццём у пасёлку Дзяржаўнага музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча. Тут можна пазнаёміцца з работамі слыннага суайчынніка, з цікавымі экспанатамі з гісторыі беларускай культуры і быту.**

**НА ЗДЫМКАХ: старажытны маёнтак у Германавічах, дзе размешчаны музей імя Я. Драздовіча; «Язэп Драздовіч». Аўтар кампазіцыі — скульптар Ігар ГОЛУБЕЎ; Ада РАЙЧОНАК праводзіць экскурсію па залах музея.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**



# ВЯСЕЛЬНЫ КАРАВАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

жаць» цеста, даць яму магчымасць добра падысці ды высока падняцца. Перахрысціўшы хлеб па даўняму хрысціянскаму звычаю, жанчыны-каравайніцы мылі рукі ад цеста, а тую ваду, у якой мылі, вылівалі пад тое дрэва, з якога бралі галінку для «рагаткі». З нецярпеннем чакалі, калі можна будзе паглядзець на святочны хлеб.

Прыгожы вясельны каравай сімвалізаваў здароўе, шчасце, мнагадзетнасць, даўгалецце маладой сям'і. Няўдачны, «асеўшы» ці дэфармаваны пасля выпечкі засмучаў бацькоў маладажонаў, быццам прадракаў нязгоду ў сям'і, смяротнасць патомства, а магчыма і зусім бяздзетнасць. Часам хлеб атрымліваўся непрыгожы, тады замешвалі цеста паўторна і зноў выпякалі. Як правіла, жанчыны стараліся, але такой сапраўднай радасці гэтая праца ўжо не прыносіла, бо неспакой у душы быў: хаця б на гэты раз удаўся.

Пасля вянчання маладыя вярталіся ў бацькаву хату, дзе каля парога іх сустракалі з караваем на ручніку і абразом, таксама ўпрыгожаным ручніком. Маладая сям'я, пацалаваўшы абраз і хлеб, уваходзіла ў хату. Потым рытуальныя хлябы ставіліся на сталы, дзе яны з'яўляліся галоўным упрыгажэннем вясельнага застолля. Па даўняму звычаю, дзякуючы гасцям за падарункі, маладыя падносілі кожнаму вясельны ласунак — кавалак смачнага каравая ды абаявязкова «шышку». Праз тых, хто прысутнічаў на вяселлі, перадавалі таксама кавалак каравая тым, хто не змог прыйсці — старой бабулі, хвораму, малым дзецям. Пачэсная місія дзяліць вясельны каравай даручаецца свату, што выконвае абавязкі тамады на вяселлі. Абвязаны белым або шэрым узорным ручніком, падарункам нявесты, сват разрэзае каравай на кавалкі — прыгожыя ды смачныя, кожны кавалак суправаджаецца жартам ці прыказкай.

Такі звычай характэрны для Гродзенскай вобласці і ў цяперашні час. Акрамя Прынямоння, вясельныя хлябы выпякалі і ў іншых абласцях Беларусі, рытуал з караваем быў таксама і ў некаторых славянскіх народаў.

У кожнай мясціне былі свае каравайніцы. На Гродзеншчыне цяпер адной з самых таленавітых лічыцца Яўгенія Арабей, якая жыве ў вёсцы Заполле, што ў Карэліцкім раёне. «Буслы», «амялушкі», «галубы», «лебедзі», «курачкі» і «пеўнікі», фігуркі лясных звяроў і хатніх жывёлін — каля 80 іх — па-сяброўску размяшчаюцца на хлябах Я. Арабей. Тут жа ёлачкі ляпныя, ураджай «грыбоў», што парамі ўтварылі сапраўдны вянок вакол прамавугольнага каравая. Работа гэтай майстрыхі вабіць вока незвычайнай рознакаляровасцю, чымсці нагадвае народную паліхромную скульптуру з дрэва. Яўгенію Мікалаеўну часта запрашаюць на вяселлі, і не толькі ў Заполлі, але ў іншыя вёскі таксама. Яна і не ўспомніць, колькі ўжо хлябоў за сваё жыццё выпекла: вельмі вялізная лічба была б, калі б магчыма было пералічыць. Кожны хлеб выпякала непадобны на папярэдні, кожны з дабрынёй ды шчырымі пажаданнямі стварае. Мастацкі талент гэтай жанчыны выяўляецца ў кожнай справе, за якую яна бярэцца. Вось праўду кажуць у народзе, што ўмелыя рукі ніколі не сумуюць. У гэтым лёгка пераканацца, як толькі паглядзіш на вышываныя ды тканыя ўзоры майстрыхі. А яшчэ яна вельмі любіць народныя песні і з ахвотай спявае ў народным хоры, нягледзячы на сталыя гады. Караваі слаўнай каравайніцы беражліва захоўваюцца ў Рэспубліканскім музеі гісторыі рэлігіі і Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным.

**Валянціна ВОЛАХ.**

## БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА Ў МІЧЫГАНСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

На працягу 1991-92 навучальнага года студэнтам Мічыганскага універсітэта была прадстаўлена магчымасць слухаць музыку ў шырокім дыяпазоне—ад беларускай «Лявоніхі» і «Купалінкі» да аўстрыйскай полькі. Беларускай музычнай экспрэсіі былі прысвечаны па тры лекцыі ў кожным семестры ў межах курса «Музыка свету», нядаўна прапанаванага шырокай студэнцкай аўдыторыі. Для чытання іх была запрошана канадка беларускага паходжання Марыя Паўла Сурвіла. Лекцыі ўтрымлівалі аспекты традыцыйнай бытавой і рытуальнай музыкі, і музыкі вымушанай міграцыі, і беларускай рок-музыкі.

«Я ўсхвалявана тым, што з'явілася магчымасць прадставіць беларускую музыку новай аўдыторыі, і часта прыемна здзіўляюся, пачуўшы, як пасля заняткаў студэнты напяваюць «Лявоніху» ў калідоры. Многія звяртаюцца з просьбай паслухаць яшчэ якія-небудзь запісы беларускай музыкі,—гаворыць Паўла Сурвіла.— Гэты энтузіязм сведчыць не толькі аб павазе да беларускай музыкі, але і аб тым, што знаёмства з беларускай музыкальнай культурай не будзе мімалётным».

## ГІСТОРЫКІ ЧАКАЮЦЬ

Рашэннем урада Рэспублікі Беларусь створаны часопіс «Беларуская мінуўшчына». Яго заснавальнікі — Галоўархіў Рэспублікі Беларусь, Беларускі філіял творчага аб'яднання Міжнароднага фонду міласэрнасці і здароўя і Беларускі фонд славянскай пісьменнасці і славянскіх культур.

— Хто мы ёсць і адкуль прыйшлі? Гэтае важнае для нацыянальнага адраджэння пытанне ўтрымлівае ў сабе галоўную ідэю новага гісторыка-архіўнага выдання, — гаворыць яго галоўны рэдактар доктар гістарычных навук Мікалай Кузняцоў. — Часопіс адрасуецца не толькі навуковым работнікам, выкладчыкам і студэнтам, але ўсім, каго цікавяць пытанні мінулага нашай рэспублікі і беларускага народа. На яго багата ілюстраваных старонках знойдзецца месца і для архіўных матэрыялаў, і для даследаванняў вучоных, і для гістарычнай белетрыстыкі, чытацкіх пісьмаў. За тыражом мы не гонімся: кошт нумара па цяперашнім часе невялікі — 15 рублёў. Рукапісы аўтараў чакаем у Мінску па вуліцы Рэвалюцыйнай, 16. Нашы дзверы адчынены для ўсіх добразычлівых людзей і аднадумцаў, мецэнатаў і спонсараў.

## ТВОРЧЫ САКРЭТ ПАЎЛА МАЛЧАНАВА

# ДАРОГА ДА ВЯРШЫНЬ



**На сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй у рэспубліканскай газеце «Звязда». У першым радзе злева направа — М. АЛАДАЎ, П. МАЛЧАНАЎ, П. БРОЎКА; стаяць — А. СЛЕСАРЭНКА, З. АЗГУР, А. ШЫБНЁЎ.**

— А дзе вы жывяце? — спытаўся я.

Малчанаў з горыччу ўсміхнуўся:

— Тут жа. У «Белдзяржкіно». Горад перанаселены· Кватэр няма. За дазволам на тымчасовае пражыванне менавіта тут давялося звярнуцца да самога Сяргея Міронавіча Кірава, і ён не адмовіў. Ніхто, акрамя яго, не адважваўся на такое рашэнне. Мяне з сям'ёю пасялілі ў маленечкім пакойчыку на даху. Там змясціўся ўсяго адзін ложак, на ім спалі жонка і дачка, а я — пад ложкам, на падлозе. Пасля перасялілі ў лепшы пакой, куды мы зараз зойдзем. Яго вызваліў кампазітар Ісак Дунаеўскі, які ад'ехаў у Маскву...

Малчанаў зірнуў на гадзіннік.

— Вось што, хлапчына: салаўя байкамі не кормяць. Гайда «ў келлю». Пап'ём чайку. З дарогі будзе табе вельмі дарэчы. А тым болей з лімонам· Пашанцавала купіць на праспекце ў Елісееўскім магазіне. Давалі па два ў рукі. Мне дастаўся апошні, адзін, затое, зірні, які прыгажун...

Нарэшце ўвайшлі ў пакой — кампактны і ўтульны. Шырокае акно ў вузкі малаасветлены двор. Два ложкі ў кутах, канапа, тумбачка і этажэрка з кнігамі. Пасярэдзіне пакоя перароблены з більярднага масіўны стол: і для абедаў, і для пісанняў прыстасаваны. Каля сцяны раяль з іншаземным надпісам на вечку. На сцяне — у пазалочанай рамцы партрэт Васілія Іванавіча Качалава, падпісаны мастаком Уладзімірам Пакроўскім.

Павел Сцяпанавіч тлумачыць:

— Гэта падарунак аўтара да майго дня нараджэння... Качалаў заходзіў да нас у студыю, заўжды гаварыў з намі па-беларуску. Расказваў, што яго роднага бацьку, свяшчэнніка, за прыгожы і дужа моцны голас, а галоўнае за бездакорнае беларускае вымаўленне, перавялі з нейкага вясковага прыходу ў віленскую Мікалаеўскую царкву, бо тыя, хто ў ёй маліліся, не разумелі ні па-літоўску, ні па-польску, ні па-руску... Васілій Іванавіч—наймалодшы ў сям'і, нарадзіўся ў доме каля гэтай царквы. Яшчэ будучы гімназістам ён прымаў удзел у аматарскім драмгуртку. Нейкі ўдалы спектакль, у якім ён іграў, вазілі на паказ нават у Мінск.

Васілію Іванавічу падабалася размаўляць з намі на роднай мове. Нярэдка мы спявалі разам з ім нашы народныя песні.

...Неўзабаве дачакаўся я свайго зацвярджэння на ролю.

Асноўныя дзеянні «Палескіх рабінзонаў» павінны былі адбывацца на ўлонні спрадвечнай беларускай прыроды. Туды мы і накіраваліся. Аблюбавалі Ліпскі востраў, які знаходзіўся за семдзесят кіламетраў на поўнач ад Гомеля. Гэта, бадай, ці не самы маляўнічы куток не толькі Палесся, але і ўсёй Беларусі.

Жыхары вострава, асабліва моладзь, пасябравалі з намі, запрашалі на свае вечарынкі, частавалі садавінай і ягадамі, вельмі смачным хлебным квасам — халодным і рэзкім. Звычайна пасля поўнага працоўных клопатаў здымачнага дня мы купаліся разам у Сожы, а потым падымаліся на Стрэлку, дзе спявалі народныя песні.

Душою нашай дружнай грамады быў Павел Сцяпанавіч Малчанаў. Вельмі адораны артыст, ён быў рады магчымасці даць выйсце сваёй творчай энергіі, пазбаўленай на той час штодзённага тэатральнага выяўлення. Ніхто не мог спаборнічаць з ім у чытанні па памяці, у спевах, у віртуознай ігры на розных музычных інструментах, асабліва на мандаліне.

Здымкі паглыналі ўсе думкі і час. Баючыся страціць яркія сонечныя дні, здымалі з раніцы да змяркання. Знясіленыя клаліся ў ложак. І так дзень пры дні, пакуль не надышла пара дажджоў, вельмі нярэдкіх на Палессі. У гэтыя дні вымушанага адпачынку я з цікавасцю назіраў, як горача і ўсхвалявана Павел Малчанаў і Іосіф Бахар абмяркоўвалі варыянты творчых рашэнняў на бліжэйшыя здымачныя дні. Абмяркоўваліся здымкі панарамы лесу і бязмежнай вады, а потым эпізод будаўніцтва плыта і будана.

— Трэба зняць гэта паэтычна, — гаварыў Павел Малчанаў, — так, як бы зняў Даўжэнка.

— Тут ёсць небяспека эпігонства,— заўважаў Іосіф Бахар.

— Ні ў якім разе!—запальчыва адказаў Малчанаў.—Мы выкарыстаем толькі знойдзены майстрам прыём, які аб'ектыўна існуе ў прыродзе мастацтва. Аляксандр Пятровіч Даўжэнка ўзвялічвае Украіну. Пейзаж у яго жывы і выключна нацыянальны. Пойдзем за ім, як вучылі, уславім пейзаж роднага краю таксама нацыянальна, па-беларуску. Сакрэт у тым, каб зафіксаваць на цэлулоідзе нашы непасрэдныя пачуцці ад ўспрыняцця сакавітай палескай прыгажосці.

Амаль да раніцы гаварылі пра майстэрства і вялікія мастацкія здольнасці Аляксандра Пятровіча. Асабліва горача абмяркоўвалася «Зямля». Павел Малчанаў ведаў творчасць Даўжэнкі глыбока. Скромны Іосіф Бахар таксама выявіў тонкае разуменне творчасці сусветна вядомага ўкраінскага мастака.

Тэмпераментна загаварыў Малчанаў:

— У кіно яшчэ не пракладзены шляхі сапраўднага мастацкага ўдасканалення. Даўжэнка, Эйзенштэйн, Пудоўкін і іншыя лепшыя нашы рэжысёры прыйшлі да выдатных вынікаў па непратаптаных сцежках. Пройдзе шмат часу, а фільмы «Маці», «Браняносец Пацёмкін» і «Зямля» не страцяць свайго значэння. Наадварот, правільнае разуменне іх узнікне з агульнага росту кінематаграфічнай культуры. Я ўпэўнены, што гэтыя фільмы з'явяцца класічным узорам для навучальных устаноў кіно ўсяго зямнога шара.

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА.**

**Працяг. Пачатак у № 26.**

---

# «ПАГРАНІЧНАЕ» ЯНОВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Згодна з мясцовым, яноўскім, паданнем, назва Янова ўтварылася ад імя даўняга ўладальніка вёскі пана Яна. Кім быў гэты пан? Магчыма, ён з'яўляўся палякам, які ў ліку іншых перасяленцаў яшчэ ў XVI стагоддзі перасяліўся ў гэтыя мясціны, на самую граніцу з Руссю-Масковіяй. Міграцыя польскіх падданых на ўсход, у межы Вялікага княства Літоўскага, на беларускія землі, у асабліва вялікіх маштабах адбывалася пасля Люблінскай уніі 1569 года (аб'яднанне Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай). Паток мігрантаў, як можна меркаваць, быў настолькі вялікім, што заканадаўства Вялікага княства Літоўскага («Статут... 1588 года», арт. 12, раздзел III) нават забараняла палякам набываць на тэрыторыі княства маёнткі, маёмасць, зямлю. Але гэта «папяровая» забарона паток мігрантаў не спыніла і нават не зменшыла.

Можна зрабіць такое меркаванне. Пан Ян, які быццам бы з'явіўся заснавальнікам і першым гаспадаром вёскі Янова, атрымаў землі ў гэтых мясцінах пасля завяршэння Лівонскай вайны, гэта значыць у пачатку 60-х гадоў XVI стагоддзя. Як вядома, на завяршаючым этапе Лівонскай вайны, у перыяд з 1578 па 1582 год, войскі Рэчы Паспалітай на чале з каралём Стэфанам Баторыем вялі паспяховыя баявыя аперацыі супраць рускіх войскаў і прымусілі маскоўскага цара Івана Грознага падпісаць мірны дагавор, згодна з якім цар адмовіўся ад захопленых земляў у Лівоніі і Беларусі. Пасля вайны кароль Стэфан Баторый дараваў каланістам, якія ў якасці ваенна-служылых людзей удзельнічалі ў вайне з Масковіяй, зямельныя ўгоддзі і званне шляхты (гл.: А. Мартос. Белорусь в исторической государственной и церковной жизни. — Буэнос-Айрес, 1966. Репринт. Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви. Минск, 1990, с. 47-48). Магчыма, тады і з'явіўся «пан» Ян у мясцовасці амаль на самай рускай граніцы. Магчыма, з той пары і адлічвае сваю гісторыю вёска Янова. Такое меркаванне дазваляе зразумець, чаму беларуска - польскае імя Ян паслужыла асновай для ўтварэння назвы вёскі, дзе спрадвеку жыве змешанае беларуска-рускае насельніцтва і чуецца змешаная беларуска-руская гаворка.

У 1654 годзе распачалася новая вайна паміж Масковіяй і Рэччу Паспалітай. Яна завяршылася ў 1686 годзе падпісаннем дагавора, па якому Смаленск, Чарнігаў, Кіеў і яшчэ 56 гарадоў адышлі да Расіі на «вечныя часы». Пасля гэтай вайны вёсачка Янова апынулася на рускім баку.

Цікава адзначыць, што на прыгранічнае размяшчэнне пасялення ўказвае і назва рэчкі Стаўбункі, на якой стаіць Янова. Калі ісці ўздоўж рэчкі, то можна заўважыць невялікія напаўгнілыя драўляныя слупы. Гэта не што іншае, як старая граніца. Дарэчы, і назва суседняй вёскі Стаўбун указвае на прыгранічныя стаўбы — слупы; слова стоўп, стоўб у старажытнарускай мове, ды і ў сучасных гаворках, у тым ліку беларускіх, азначалі не проста «слуп», але яшчэ «кол, паля, убітыя ў зямлю, межавы знак». Вёска Стаўбун упамінаецца ў «Інвентары Чачэрскага староства 1704 года», прычым форма наймення пасялення падаецца тут трохі іншым чынам — як «Столбынь». Геаграфічнае найменне Стаўбун, «Столбынь» магло ўказваць на абаронныя ўмацаванні, на пасяленне, якое акружана «стаўбамі», слупамі, убітымі ў зямлю. У 1704 годзе ў Стаўбуне налічвалася 18 «дымоў» (гаспадарак), адсюль можна меркаваць, што данае пасяленне ўзнікла дзесьці ў XVII стагоддзі. Ці не ў гэты час убіваліся палі і ўздоўж берага рэчкі Стаўбункі? Узвядзенне абаронных застаў, праўда, магло весціся і ў канцы XVI стагоддзя, неўзабаве пасля завяршэння Лівонскай вайны. Нельга выключаць магчымасці і іншага тлумачэння, тым больш, што на захад ад Стаўбуна і Янова, у Рагачоўскім, Буда-Кашалёўскім раёнах існуюць вёскі з назвамі адпаведна Стоўпня і Стоўпішча. Верагодна, усе гэтыя найменні трэба разглядаць у комплексе, бо яны могуць указваць на нейкі, пакуль невядомы дакладна рубеж, прычым такі, які ўзыходзіць, магчыма да больш ранніх часоў, чым XVI—XVII стагоддзі.

Адна старэнькая бабулька з Янова паведаміла такую версію аб паходжанні назвы рэчкі Стаўбунка. Аднойчы панскія халопы падпалілі ноччу панскі маёнтак, а самога пана, які люта здзекаваўся з безабаронных сялян, прывязалі да слупа каля ракі і жывым спалілі яго. А на месцы пакарання паставілі крыж. Гэта, аднак, не больш чым легенда, якая ўзнікла тым не менш на рэалістычнай аснове.

Некалькі звестак з гісторыі іншых населеных пунктаў Яноўскага сельсавета. Іх, дарэчы, у сельсавеце пяць (разам з цэнтральнай вёскай). Вёска Стаўбунскае Будзішча ўзнікла, па ўсёй верагоднасці, як выселкі з вёскі Стаўбун. У згаданым вышэй статыстычным зборніку Г. Пажарава (1910 год) адзначаецца, што ў пачатку стагоддзя ў вёсцы Будзішча Стаўбунскай воласці быў 71 двор, пражывала 528 чалавек. Данае пасяленне заснавана не раней рубяжа XVII—XVIII стагоддзяў.

Невялікі пасёлак Расуха (зараз у ім усяго каля 10 двароў) узнік у 1929 годзе (аб гэтым паведамляецца ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці» Я. Н. Рапановіч. — Мн., 1986). Што азначае назва Расуха? Як расказваюць старажылы, да ўзнікнення пасёлка на гэтым месцы быў луг. Тут пасвілі кароў. Калі іх прыганялі раніцай, то з высокай і густой травы літаральна сцякала шчодрая раса. З гэтай прычыны быццам бы і назва пасёлку была дадзена адпаведная — Раса-Расуха.

І зноў мы прыводзім гэтае народнае тлумачэнне як узор неабмежаванай фантазіі пры тлумачэнні незразумелых назваў. Найменне Расуха ўтварылася ад геаграфічнага тэрміна расоха — «развіліна (дарог); раздваенне ручая, рэчкі; месца, дзе зліваюцца два вадацёкі, яры; дзве крыніцы, якія жывяць рэчку» і г. д. Канкрэтныя прычыны нараджэння назвы пасёлка трэба высвятляць на месцы.

Дакладны час узнікнення яшчэ двух пасёлкаў — Жалуддзя і Лазарава невядомы. Ускосныя факты, аднак, дазваляюць меркаваць, што гэтыя населеныя пункты ўзніклі не раней пачатку нашага стагоддзя. Назва Лазараў утварылася на аснове імя Лазар ці прозвішча Лазараў. У найменні Жалуддзе мы бачым адлюстраванне слова жолуд. Відаць, Жалуддзе літаральна — «месца (урочышча), дзе збіралі жалуды».

На заканчэнне адзначым, што наваколлі вёскі Янова да XVI—XVII стагоддзяў уяўлялі сабой пустэльную лясную мясцовасць. У новы час лясы адступілі, але і сёння праз 2 кіламетры на ўсход ад Янова пачынаецца густы яловы лес. За ім знаходзіцца руская вёсачка Ялоўка (тэрыторыя Браншчыны), назва якой, як бачым, звязана з абазначэннем елкі, яліны. На былую бязлюднасць гэтых мясцін указвае і той факт, што вакол Янова і іншых чатырох пасяленняў сельсавета, у адрозненне ад суседніх мясцін Веткаўшчыны, няма археалагічных помнікаў — гарадзішчаў, селішчаў, курганных могільнікаў. Людзі прыйшлі ў «яноўскія» лясы позна. Тым не менш, гісторыя тут таксама ёсць, прычым, як мы пераканаліся, даволі цікавая, своеасаблівая.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

# крынічка


Падружыліся.

Алесь БАДАК.

## МЫ КУПІЛІ КРАКАДЗІЛА

— Вы хадзілі!
— Мы хадзілі.
— Вы купілі!
— Мы купілі.
Сёння мы
З сястрычкай Зінай
Абышлі
Усе магазіны.

Мы хадзілі
Цэлы дзень.
Рыбак не знайшлі
Нідзе.

Ды затое
Там адзін
Прадаваўся
Кракадзіл!

Мы сабе яго
Купілі.
Дома ў ванну
Пасадзілі.

А пасля яшчэ
Туды
Напусцілі мы
Вады.

— А не маніце вы
Мне!
— Не!

Кракадзіла мы
Купілі,
Ды спытацца вось
Забылі,

Чым карміць яго нам
Можна:
Рыбай!
Кашаю!
Марожаным!

Кракадзіл
Прагаладаўся,
Раптам з ванны
Паказаўся.

Гэтак ляснуў ён
Зубамі —
Шыбы ў вокнах
Задрыжалі!

Стукнуў па вадзе
Хвастом —
Здрыгануўся
Цэлы дом!

Мы з сястрычкаю —
За дзверы.
І ўцяклі хутчэй
З кватэры.

Што, не верыш!
— Веру.
З кожным
Здарыцца такое
Можа.

Добра хоць,
Што за пятак
Не купілі вы
Кіта.

Яго ранкам
На вакзале
Гэтаксама
Прадавалі!

Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

## ЗАГАДКІ

Я ў беленькім берэце
Мая ножка не абута.
А як дзьмухне толькі вецер —
Рассыпаю парашуты.

(Дзьмухавец)

Зеляніну я люблю.
Лісце ем, на лісці сплю.
Мой найлепшы месяц—май.
Хто такі я, адгадай.

(Майскі жук)

## ПРЫКАЗКІ

**У няўмекі рукі калекі.**
**Паволі едучы, далей будзеш.**
**Не пераскочыўшы рэчкі, не кажы гоп.**
**Пад ляжачы камень вада не цячэ.**
**Чужым розумам сыт не будзеш.**
**Кошка мышцы не таварыш.**

Раіса БАРАВІКОВА

## МАЙСТАР ДЗВЕ ЗАЛАЧОНЫЯ ДУЖКІ

Сонца хавалася за лес, на ўскрайку якога бацька казаў сыну:

— Чуе маё сэрца — паміраю я. Нічога не магу пакінуць табе, акрамя слоў: хай ніколі не пакідае твой розум кемлівасць, а дабрыня — таваё сэрца.

Сказаў гэтыя словы і памёр. А сын пахаваў бацьку і заспяшаўся ў вялікі горад. Не ведаў ён, што ў тым горадзе якраз паміраў знакаміты чалавек — майстар Дзве Залачоныя Дужкі. Яшчэ раніцай ён паклікаў слугу і сказаў яму:

— Няма ў мяне ні дачкі, ні сына, але ёсць талент да вырабу акуляраў. Я перадаю гэты талент з домам і майстэрняй таму, хто першы ўвойдзе ў горад пасля маёй смерці.

Майстар памёр. А слуга пабег на гарадскі вал, каб дачакацца таго чалавека, які першы ўвойдзе ў горад. І не паспеў дабегчы, як пачуў голас:

— Скажы мне, добры чалавек, дзе я магу заначаваць?

— Цябе чакае вялікі дом у нашым горадзе і майстэрня, — сказаў слуга. — Ты цяпер будзеш майстрам Дзве Залачоныя Дужкі.

Новы майстар хутка звыкся з прыемнай нечаканасцю. Праз некалькі дзён яго ўжо можна было бачыць каля самай высокай вежы каралеўскага палаца, і добрыя людзі казалі:

— Вунь стаіць малады майстар Дзве Залачоныя Дужкі. Ён прадае акуляры.

Аднаго разу ў палацы, у Ружовай зале, кароль сабраў сваіх мудрацоў. Яму захацелася ведаць, якая самая шкодная рэч у каралеўстве.

— Самая шкодная рэч — акуляры! — сказаў старэйшы мудрэц. — Яны дапамагаюць бачыць тое, што не кожнаму дазволена.

Кароль запляскаў у ладкі, і ўсе, хто быў у Ружовай зале, закрычалі:

— Самая шкодная рэч у каралеўстве — акуляры!

У той жа дзень ва ўсе бакі паскакалі ганцы, разносячы гэту навіну. А каралеўская варта схапіла майстра Дзве Залачоныя Дужкі і прывяла ў Ружовую залу, дзе сабраліся прыдворныя, каб у вялікі сярэбраны кубак караля ліць ялей — надзвычай смачны сіропчык, настоены на пялёстках Паўднёвай ружы, самай прыгожай кветкі ў тым каралеўстве.

— Адсячыце яму галаву! — загадаў кароль.

Варта кінулася да майстра Дзве Залачоныя Дужкі, але ён рукою спыніў стражнікаў і сказаў:

— Яснавяльможны кароль! Я прадаю незвычайныя акуляры. Яны — чароўныя. Ты можаш у гэтым пераканацца!

І майстар Дзве Залачоныя Дужкі абвёў позіркам Ружовую залу. Ён заўважыў у дальнім кутку змрочнага чалавека і вярнуўся да караля:

— Хай гэты чалавек возьме мае акуляры і скажа табе, што ён бачыць наўкола.

Як толькі чалавек надзеў акуляры, кароль запытаўся:

— Ну, што ты бачыш?

— Што бачу? — сумна ўсміхнуўся чалавек. — Лепш бы мне не бачыць гэтых нікчэмных людзей! — паказаў ён рукою на прыдворных. — Яны прыходзяць у Ружовую залу ліць ялей у твой сярэбраны кубак і запэўніваюць цябе, што гэты салодкі сіропчык настоены на пялёстках Паўднёвай ружы. Мне шкада цябе, мой кароль! Шкада, бо ты не бачыш, што ялей настоены не на пялёстках Паўднёвай ружы, а на дробных жоўтых кветачках, якія растуць пад сценамі нашага горада. Яны такія мізэрныя, гэтыя кветачкі, што нават назвы не маюць.

Майстар Дзве Залачоныя Дужкі бачыў, як чырванеюць твары прыдворных. А прыдворныя бачылі, як чырванее твар караля. Нарэшце кароль устаў са свайго трона і сказаў:

— Дзякуй табе, майстар Дзве Залачоныя Дужкі. Твае акуляры сапраўды чароўныя. А ты самы праўдзівы чалавек у маім каралеўстве, і я залічваю цябе ў спіс сваіх мудрацоў.

Ад каралеўскай міласці майстар Дзве Залачоныя Дужкі сціпла адмовіўся. Яго штодня можна бачыць каля самай высокай вежы каралеўскага палаца, і ўсе добрыя людзі кажуць:

— Вунь стаіць майстар Дзве Залачоныя Дужкі. Ён прадае чароўныя акуляры!

А кароль выкінуў свой сярэбраны кубак і больш ніколі не пытаўся, якая самая шкодная рэч у каралеўстве.





**Першы ў рэспубліцы прыватны агульнаадукацыйны ліцэй працуе ў Мінску пры творча-вытворчай базе «МОКА». Навучаюцца ў ім дзевятнаццаць дзетак, з якімі працуюць адзінаццаць высокакваліфікаваных педагогаў.**

**Акрамя базавай школьнай праграмы, ліцэісты паглыблена вывучаюць гісторыю мастацтваў, англійскую мову (з часам будзе і яшчэ адна замежная), займаюцца спартыўнай гімнастыкай, плаваннем. Выкладчыкі шырока выкарыстоўваюць урокі-экскурсіі, віктарыны, конкурсы, абапіраюцца на сучасныя тэхнічныя сродкі навучання. Усё гэта дазваляе дзецям гарманічна развівацца, лёгка і радасна засвойваць праграмы.**

**Пакуль курс навучання ў ліцэі разлічаны на чатыры гады, але з часам ён будзе працягнуты да адзінаццаці. Каля трыццаці тысяч рублёў у год абыходзіцца ліцэю кожны вучань. Большую частку гэтых выдаткаў нясе фірма-заснавальнік.**

**НА ЗДЫМКАХ: у спартыўнай зале; на ўроку Алена ГУРЭВІЧ і Іван УКОЛАЎ.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1202.
Падпісана да друку 29.06.92.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12